# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1967
Лістапад-
Сьнежань

Год XV
№ 6 (105)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1967 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.
У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.
У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:
Mr. Antony Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinojs, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:
Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:
Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

У Аўстраліі:
Mr. M. Nikan, 14 Steel Str., Spotswood — Melbourne, Vic. 14, Australia.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:
Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XV** **November—December** **№ 6 (105)**
**1967**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE, LONDON, N. 12.
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год. XV | ЛІСТАПАД—СЬНЕЖАНЬ 1967 | № 6 (105)

УЛАДЫКА ЧЭСЛАЎ СІПОВІЧ, АПОСТАЛЬСКІ ВІЗЫТАТАР БЕЛАРУСАЎ

і

РЭДАКЦЫЯ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»

ВІТАЕ ДАРАГІХ ЧЫТАЧОЎ, ПРЫЯЦЕЛЯЎ І ЎСІХ СУРОДЗІЧАЎ-БЕЛАРУСАЎ

ЗЬ ВЯЛІКІМ СЬВЯТАМ ХРЫСТОВАГА РАЖСТВА,
ЖАДАЕ ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1968 ГОДУ!

КАБ БОГ ДАЎ НАШАМУ НАРОДУ ВОЛЮ І ПОЎНУЮ СВАБОДУ
НАШАЙ ДАРАГОЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЕ!

# КАЛЯДНАЕ ПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ



*ДАРАГІЯ БРАТЫ І СЁСТРЫ!*

Штогоду хрысьціяне прыгатаўляюцца да належнай сустрэчы Нараджэньня Госпада Нашага Ісуса Хрыста.

І ня толькі ў манастырох і сьвятынях, але так-жа ў слаўных сталічных гарадох, дзе вуліцы і плошчы, а нават крамы, упрыгожваюцца гірляндамі і мадэрным асьвятленьнем. Мо некаторыя скажуць, што гэта дзеіцца неканечна дзеля хрысьціянскае пабожнасьці, а проста дзеля разрыўкі або прапаганды пэўнага інтарэсу.

Няхай сабе! Аднак-жа там, дзе існуе сапраўдная свабода, людзі помняць аб Хрысьце.

*

А цяпер запытайма: а што было ў далёкай, сівой, да-хрыстовай мінуўшчыне? Ці і тады людзі чакалі Хрыста?

Ніводная хроніка старадаўных народаў не адцеміла найважнейшай для людзтва даты, — даты зьяўленьня чалавека на зямлі, хаця пэўныя традыцыі, падобныя да расказу Бібліі аб стварэньні чалавека, шмат якія народы перахавалі.

Калі толькі нашыя прародзічы Адам і Ева, будучы ў раю, зграшылі, адразу на самых сабе і ў сваёй сям'і адчулі наступствы грэху.

Біблія аб гэтым кажа: «Адчыніліся тады вочы абодвых і застыдаліся сваёй галізны: пасшывалі фіговае лісьце і зрабілі сабе перавязкі». (Кн. Быцьця, III, 7).

Хутка трагізм страчанай раўнавагі даецца моцна адчуць усяму чалавецтву. Розум траціць уладарную сілу над воляй. Сэрцам чалавека валадае ўжо ня Бог, але пажадлівасьць вачэй або прагнасьць багацьця, дый пажадлівасьць цела або прагнасьць роскашы і гордасьць жыцьця.

Братабойца Каін распачаў сумны сьцяг сямейных закалотаў. Множацца грахі распусты, якіх ані серкавы агонь Садомы і Гаморы ня можа спапяліць, ані патоп затапіць. Заўсёдныя войны між народамі, клясавая няроўнасьць і нявольніцтва ганьбяць людзкія адносіны.

Сапраўды, дзіўная псыхалёгія чалавека! Калі мы грэшым, тады нам здаецца, што мы вельмі моцныя, бо-ж перамагаем нейкія цяжкасьці да нейкае мэты. Хутка аднак, калі адазьвецца сумленьне і калі агорне нас сум, дык стараемся быццам уцячы ад самых сябе і ад Бога.

Паўтараецца эпізод раю. Чуючы блізкасьць Госпада: «Мужчына са сваёй жанчынай уцяклі з вачэй Бога Еговы, хаваючыся паміж дрэвамі саду». (Кн. Быцьця, III, 8).

Як хутка пачуцьцё гордасьці: «Будзеце багамі!» перамянілася ў трусасьць!

✳

Аднак пачатак гісторыі чалавека, апрача яго граху, мае і сьветлы прамень надзеі адраджэньня.

Бог, прakляўшы вужа-сатану ў раю, сказаў: «Пасею варожасьць між табой і жанчынай, між тваім насеньнем і яе: яно раздушыць тваю галаву, а ты накінешся на пяту». (Кн. Быцьця, III, 15).

Гэта ёсьць першае прароцтва аб Мэсіі-Збаўцы ў Старым Запавеце. Паводле яго нашчадак жанчыны зробіць сьмяротны ўдар на пасьлядоўцаў сатаны. А той жанчынай ня мог быць хто іншы, як толькі Марыя, Маці Хрыста.

Носьбітам мэсыянскай ідэі Бог выбраў нязначны жыдоўскі народ. Бог апякуецца ім на працягу ўсей яго гісторыі і праз вялікіх правадыроў народу ўваходзіць зь ім у саюз.

Звычайна, калі Бог заклікае народ да службы, не пакідае яго без асаблівай пацехі і падтрымкі. І так, выпрабаваўшы веру Абрагама, Бог сказаў:

«Глянь на неба і палічы зоры, калі можаш іх зьлічыць ... Такім шматлікім будзе тваё патомства». (Кн. Б. XV, 5).

✳

Дзеля эканамічных цяжкасьцяў у Палестыне жыдоўскі народ трапіў у Егіпет і тут размножыўся; егіпцыяне ўпраглі яго да непасільнай працы, якую выконвалі нявольнікі або лягернікі — аж толькі Майсей — прарок і цудатворца — ратуе свой народ. Ён выводзіць жыдоў з дому няволі і зь нявольнікаў выхоўвае дасьпелы народ, які можа ганарыцца сваёй літаратурай, сваім правам, а пасьля і сваёю дзяржавай.

Выхад жыдоў з Егіпту і ўваход у Абяцаную Зямлю стаўся для хрысьціянаў сымбалем падарожжа да вечнае прыстані ў небе.

Калі-ж Майсей зышоў з сынайскае гары і абвясьціў народу Божы Закон, народ адказаў: «Мы споўнім усе словы, што сказаў Егова» (Кн. Выхаду, XXIV, 3).

Тут ізноў саюз Бога з народам быў пацьверджаны ахвярамі і акрапленьнем іх крывёю аўтара (Кн. Вых. XXIV, 4-8), бо кроў у паняцьці сэмітаў азначала душу.

✳

Пасьля слаўнай эпохі Давіда і Салямона Ізраіль трапляе ў няволю бабілёнскую. Здалёк ад роднай краіны, пазбаўлены аўтара і сьвятыні, яны засылаюць да Бога сумныя мольбы «ля водаў бабілёнскіх». Гэтыя мольбы і палымяныя словы прарокаў даюць ім сілу ператрываць няволю.

Прарокі, хаця і бічуюць свой народ вострымі словамі за нявернасьць Богу, але адначасна падыймаюць яго духова, прадказываючы Хрыста-Збаўцу і яго ідэальнае валадарства.

Паводле прарокаў Хрыстос-Мэсія выйдзе з роду Давіда, народзіцца з Дзевы ў Бэтлееме, будзе напоўнены духам Еговы і будзе яго слугою: «цудоўны дарадца, Бог магутны, айцец на векі, князь супакою». Яго валадарства будзе унівэрсальным і духовым.

Але найбольш характэрным ёсьць прадсказаньне цярпеньняў Хрыста, дакладна апісаных Ізаям.

✳

Інакш чымся Ізраіль прыгатаўляюцца на прыняцьце Хрыста іншыя народы. На Ўсходзе паўстаюць вялікія рэлігіі: буддызм, гіндуізм і канфуцыянізм. Гэтыя рэлігіі зьвяртаюць увагу на сама-дасканаленьне чалавека і на вышэйшую мэту жыцьця, шукаюць разьвязкі адносна быцьця і праўды. Хаця і ня зусім сьведама, але яны прыгатаўляюць народы на спатканьне Хрыста, каторы адзіны мог сказаць аб сабе: «Я ёсьць дарога, праўда і жыцьцё». (Ян, XIV, 6).

І на гэта зьвярнулі ўвагу Айцы II-га Ватыканскага Сабору.

«Людзі розных рэлігіяў — чытаем ў Дэкларацыі аб не-хрысьціянскіх рэлігіях — чакаюць адказу на сукрытыя загадкі людзкіх умоваў, якія сяньня ня менш чымся ўчора турбуюць сэрца чалавека; а да такіх трэба аднесьці: натуру чалавека, зьмест і мэту яго жыцьця, дабро і грэх, пачатак і дамэтнасьць цярпеньня, шлях да сапраўднай шчасьлівасьці, сьмерць, суд і санкцыі пасьля сьмерці; уканцы апошная і нявыказаная тайна, якая цесна спалучана з нашым існаваньнем, гэта пытаньне, адкуль і куды імкнёмся?».

Вось важнейшыя праблемы, якія кожнаму чалавеку накідаюцца самі сабой у кожным часе і ў кожным народзе. А таму і ня дзіва, што і вялікія дахрысьціянскія рэлігіі далі больш або менш цэнны адказ на іх.

Гэта заўважыў старадаўны хрысьціянскі пісьменьнік Эўзэбі з Цэзарэі, гісторык імп. Канстантына Вялікага, а за ім паўтарылі тое самае Айцы II-га Ватык. Сабору ў дэкрэце „Lumen gentium“:

«Бо ўсё тое добрае і праўдзівае, што знаходзіцца ў нехрысьціянскіх рэлігіях, уважае Царква як падрыхтоўку да прыняцьця Эвангельля і як дадзенае Тым, Каторы асьвячае кожнага чалавека, каб ён уканцы меў жыцьцё».

*

Калі мы ўспомнілі старадаўнія рэлігіі, дык варта таксама сказаць і аб грэцкай філязофіі, якая для ўсіх людзей зрабіла вялізарную прыслугу сваімі досьледамі жыцьця і праўды.

Кемлівыя грэкі дзякуючы філязофіі імкнуліся даць адказ на пытаньне: зь якіх элемэнтаў складаецца бачаны намі сьвет? У 5-ым стагодзьдзі да Хрыста на парадку дня стаіць праблема чалавека.

Сакрат, Плятон і Арыстотэль вельмі цікавяцца праблемаю Бога, пачатку сьвету, этыкі, праблемаю пазнаваньня. Існаваньне несьмяротнай душы сталася для іх адным з найважнейшых пытаньняў.

Чым аднак вышэй узносіцца людзкая думка, каб дайсьці да сонечных вяршыняў праўды, тым мацней адчуваецца ейны недахоп. Усе разумеюць патрэбу пэўнейшага слова, чым слова — хаця і геніяльнае — чалавека!

І так Плятон у адным з сваіх твораў («Фэдон»), калі вуснамі Сакрата даказаў несьмяротнасьць душы, праз іншага ўдзельніка дыялёгу Сімміама выцягвае наверх гэткія сумнівы:

«Я думаю — адказвае Сімміам Сакрату — што ў гэтым пытаньні немагчыма або прынамсі вельмі цяжка пазнаць усю праўду ў гэтым жыцьці. Я ёсьць так-жа праканаы, што ня ўглыбляцца ў яго і змарыцца перад тым, чымся зробяцца ўсе натугі, азначала-б быць чалавекам сапсутым выгодай і слабым. У такіх пытаньнях трэба выбраць адну зь вялікіх дарог: або прыняць праўду ад іншых або знайсьці яе самому. А калі абедзьве дарогі ёсьць немагчымыя, дык тады з паміж усіх людзкіх разважаньняў выбраць лепшае і выгаднейшае. Абясьпечыўшы сябе пераплываць быццам на плыце праз буры гэтага жыцьця: хіба-што знойдзецца для нашага падарожжа карабель пэўнейшы — б о с к а е  с л о в а — якое нашу пераправу зрабіла-б больш надзейнай і зьменшыла-б небясьпеку».

Далей ня мог сягнуць геній грэцкіх філязофаў!

У той самай хвіліне, калі мудрацы разважалі найважнейшыя праблемы чалавека і хацелі даць на іх адказ, дык змушаны былі прызнаць бязсільле людзкога розуму, што ня могуць дайсьці да абсалютнай пэўнасьці.

Сумнівы Плятона мучылі і рымскага філязофа Цыцэрона дый шмат іншых.

Што аднак зьяўляецца нязвычайна цікавым у таго-ж Плятона — гэта яго прарочы дух адносна будучага «справядлівага чалавека».

У сваім творы «Рэспубліка» ён пісаў:

«Справядлівы, якога я апісаў, будзе бічаваны, мучаны, закаваны ў аковы, пазбаўлены зроку, уканцы перацярпеўшы ўсе зьдзекі, завісьне на крыжы і такім чынам будзе доказ на тое, што беспатрэбным ёсьць імкнуцца да таго, каб стаць справядлівым, але годзе прыкідвацца».

Ці-ж Плятон ня зыйшоўся з прарокам Ізаіям, хаця яны жылі ў розных часах і ў зусім розных абставінах?

Некаторыя Айцы Царквы дапушчалі, што Плятон быў азнаёмлены са зьместам Біблії.

Аднак астаецца бяспрэчным фактам тое, што грэцкая філязофія працерабіла шлях да новай Праўды, якую на прыгатаванай ніве ахвярна сеялі вучні Хрыста.

*

І калі надыйшла пара, якую называем паўнатой часу, усёмагутны і міласэрны Бог паслаў анёла Габрыеля да нікому датуль няведамай Дзевы ў Назарэце, што была з роду Давіда, а імя яе было Марыя. Калі яна ў гутарцы з анёлам не магла сьцяміць тайны Божага ўцелаўленьня, уканцы з моцнай верай і глыбокай пакорай згадзілася і казала: «Вось я — слуга Госпада, няхай станецца мне па слову твайму». (Лука, I, 38).

У той-жа хвіліне Слова — Лёгос — Другая Асоба Сьв. Тройцы сталася целам. Сам Бог

зыйшоў на зямлю. Пачаўся новы пэрыяд у гісторыі чалавека.

Збыліся прароцтвы Старога Запавету: у Бэтлееме нарадзіўся той, якога чакалі народы, якога часта нясьведама шукала думка ўсіх рэлігіяў, да якога надзейна адклікаліся філёзафы.

Прыйшоў той, які меў сказаць апошняе слова аб жыцьці і сьмерці, аб значэньні цярпеньняў і аб вечным шчасьці.

Сяньня сьвяткуючы дзень Нараджэньня Хрыста і мы беларусы на нашай вялікай, але змучанай і прасьледванай Бацькаўшчыне, а так-жа раскіданы па ўсіх закутках сьвету выгнанцы, не забывайма аб бэтлеемскай зорцы і аб тым, да каго накіроўваць нашы заплаканыя вочы. З пакорай Марыі, з пасьпешлівасьцю бэтлеемскіх пастушкоў і з мудрацамі Усходу сьпявайма цэлым сэрцам і душой:

Хрыстос родзіцца — Яго слаўце!
Хрыстос на зямлі — радуйцеся!
Хрыстос — Бог наш!

Рым, Каляды 1967 г.

ЧЭСЛАЎ СІПОВІЧ
Біскуп тыт. Марыямітанскі
Апостальскі Візытатар Беларусаў

---

*а. Ф. Журня*

# Год веры 1967—1968

Гэты год мае вялікае значэньне для ўсяго хрысьціянства. Павал VI назваў яго ГОДАМ ВЕРЫ, каб людзі паглыбілі сваю веру ў Бога і ў Божыя праўды.

Пачаўся гэты год сёлета 29 чэрвеня, бо гэты дзень прысьвячаны памятцы сьмерці галоўных апосталаў Пятра і Паўла.

Апосталы Пётр і Павал зьяўляюцца вельмі важнымі сьветкамі веры. 1900 гадоў таму яны аддалі сваё жыцьцё за веру ў Госпада нашага Ісуса Хрыста — дня 29 чэрвеня 67 году хрысьціянскае эры: Пётр быў укрыжаваны на Ватыканскім узгорку, а Павал сьцяты мячом за горадам Рыму.

І сёлета 29 верасьня пачаўся ў Рыме Сынод Біскупаў — выбраных і прысланых прадстаўнікоў з цэлага сьвету — у ліку 193 асобы. Мэта гэтага Сыноду — увесьці ў жыцьцё пастановы II-га Ватыканскага Сабору, што таксама мае прычыніцца да ўзмацненьня веры.

І зара пры гэтым ад 11-га да 18 кастрычніка адбываўся ў Рыме Кангрэс Сьвецкіх Каталікоў: яны былі дэлегатамі і прадстаўнікамі каталікоў з цэлага сьвету. Сабралася іх звыш 3 000 із 103 краёў. На Зьезьдзе былі прысутныя 85 абсэрватараў ад іншых рэлігіяў.

Асноўнай думкай гэтага вялікага Кангрэсу было шуканьне дарогі, на якой каталікі маюць будаваць Божае Валадарства ў ва ўсіх галінах людзкога жыцьця. Пабуджаючы лозунг Кангрэсу быў такі: «**Народ Божы — на** дарогах сьвету».

Нічога дзіўнога, што Каталіцкая Царква робіць гэтулькі захадаў дзеля справы веры, бо ў апошнім часе вера перажывае вялізныя цяжкасьці, а нават, можна сказаць, выяўляецца крызыс веры. Аднак у гэтым няма нічога нязвычайнага: адкуль існуе чалавецтва, яно хістаецца як хвалі ў акіяне — і ў веры і ў обычаях — то зблізжаецца, то аддаляецца ад Бога.

Штосьці падобнае бачым і ў асобных людзей, а таксама і ў народаў. Але такая зьменлівасьць ня ёсьць ад Бога, толькі ад самага слабога чалавека. Толькі Сам Бог ёсьць абсалютна дасканалы і нязьменлівы. А чалавек падлягае розным спакусам і хістаецца як той сьцяжок на даху. Шукаючы шчасьця вылучна на зямлі, людзі лёгка забываюцца аб Богу. Аднак, калі ўдэрыць «трывога, тады бяжым да Бога». Калі прыходзіць цярпеньне, няшчасьце ці хвароба, або пагражае сьмерць, тады ясна бачым, які гэты сьвет крохкі і ломкі, падманлівы і толькі часова ёсьць нашым прыстанкам, а сапраўдным дабром і поўным шчасьцем ёсьць Бог.

Пра цяперашні крызыс веры Папа Павал ЎІ ў пасланьні да Біскупаў Каталіцкае Царквы дня 29 чэрвеня 1967 г. піша:

«Эвалюцыя сучаснага сьвету, якая даконвае нязвычайных заваяваньняў у галіне матар'яльнай, робіць чалавека штораз больш гордым з сябе — аж забываецца пра Бога і адступае ад Яго. Але ў тым самым часе сьвет пачынае цярпець нястачу раўнавагі, якая пацягвае за сабою рэлігійны заняпад у жыцьці духовым, маральным і ў грамадзкім парад-

ку. І ў выніку гэтага чалавек зьяўляецца выданым на волю сваіх прагнасьцяў і нявылечнай трывогі. Дзе нестае Бога, там таксама нестае найвышэйшага прынцыпу ўсялякага парадку: бяз гэтых-жа вартасьцяў людзкі парадак існаваць ня можа. Рэлігійнае пачуцьцё ў сучасных людзей аслабляецца і занапад яго пасьлядоўна адсоўвае натуральны грунт з пад нашае веры.

«Бачым, як у розных месцах украдваюцца ў галіну каталіцкае навукі новыя погляды ў тлумачэньні сэнсу Сьвятога Пісьма ці тэалёгіі, ўзятыя з філязофіі пабочнай, сьмелыя, але засьлепленыя. Гэтыя пагляды часта ставяць пад знакам пытаньня або дэфармуюць аб'ектыўнае значэньне праўдаў, якіх Царква навучае на падставе свайго аўтарытэту.

«Пад прэтэкстам, каб датасаваць рэлігійныя пагляды да сучаснага сьветапагляду, не зьвяртаецца ўвагі на Кіравецтва Настаўніцкай Улады Царквы. А ў досьледах тэалёгіі прыймаюць напрамак радыкальна-гістарычны, пасоўваюцца нават аж да таго, што агольваюць Сьвятое Пісьмо з яго гістарычнага і сьвятога характару і робяць натугі, каб увесьці ў Божы Люд, так называны, сьветагляд «пасаборны». Вось-жа гэты іхні сьветагляд ня прызнае сталай згоды, якая існуе між цудоўным і вялізным разьвіцьцём Сабору ў галіне дактрыны і правадаўства Царквы і ейнай спадчынай у сфэры навучаньня і дысцыпліны.

«Той (пасаборны „сьветагляд") імкнецца да здрады духу вернасьці, які ажыўляе Сабор адносна традыцыі, таксама імкнецца да зманлівай прэтэнсіі, каб прысвойваць хрысьціянству новую інтэрпрэтацыю, якая папраўдзе ёсьць адвольнай і бясплоднай. Дык што-ж сталася-б з сэнсам веры і тэалягічнай цноты, якую гэтая вера прызнае, каб падобнае намаганьне, якое пагарджае Настаўніцкай Уладай Царквы, атрымала перамогу?»

Далей Папа заахвочвае і загадвае багасловам, прапаведнікам і заканавучыцелям і ўсім, хто займаецца тлумачэньнем і досьледам праўдаў веры ці Сьвятога Пісьма, каб гэта рабілі зь вялікім запалам, але таксама ў лучнасьці з Настаўніцкай Уладай Царквы. Між іншымі сродкамі, каб ажывіць веру, Папа загадвае супольна адмаўляць Апостальскі Склад Веры («Верую . . .») у сем'ях, у школах, у цэрквах і пры іншых нагодах, дзе было-б карысна. Таксама ў сваей прамове Папа кажа, што вера вымагае пасьлядоўнасьці. Няраз яна вымагае вырачэньня матар'яльнага дабра, нават дачаснага жыцьця дзеля вартасьці духовай. А тымчасам цяперашнім людзям, якія так шмат давяраюць сабе і захопліваюцца дачасным жыцьцём, ня лёгка на гэта здабьцца. Вось што гаворыць Папа аб цяперашнім чалавеку:

«Зь верай вяжыцца небясьпека рызыкі і ўласны супакой і бяспечнасьць. Рэдка таксама жадаем змагацца за прынцыпы, якія не вяжуцца зара з матар'яльнай карысьцю. І рэдка ставім сваю асобу на суджэньне іншых людзей. Баімося насьмешкі ці пагарды, ці паніжэньня. Мы любім думаць аб усім тым, што ня выклікае крытыкі і небасьпекі. У грамадзкіх сустрэчах любім станавіцца на старане сільнейшага ў публічных поглядах, хаця-бы былі і не абавязкава разважнымі.

«І так мы лёгка становімся згоднікамі. Калі справа датычыць рэлігіі, дык мы ніколі не жадаем, каб прызнаваньне яе прычыняла нам якую прыкрасьць. А нават мы-бы хацелі мець такую рэлігію, якая-бы нас забяспечвала перад усімі неспадзяванкамі і ў жыцьці дачасным і прышлым.

«Так разважаючы, Царква мусіла-б перамяніцца ў якуюсь сыстэму забяспячэньня душы і стацца нейкай „страховай управай" — інстытуцыяй карысталюбівага характару. Хто аглядаецца на людзкую ўважлівасьць, той скланяецца да адрачэньня адказнасьці за сваё праканаваньне. А тымчасам вера павінна глыбока валодаць нашаю думкай, у нашай індывідуальнасьці. Ад хвіліны, калі мы ў нашым жыцьці спаткалі Хрыста — быў гэта дзень нашага хросту і навароту — нашае жыцьцё улучылася ў Хрыста. Мае яно адзінае аблічча і адно галоўнае права — быць хрысьціянскім. Інакш пагражае нам адступніцтва ня толькі ад Хрыста, але таксама і ад нас самых: ад нашага сумленьня, ад пасьлядоўнасьці ў жыцьці . . . Маем прызнавацца да веры ў адпаведнай форме, якая вымагае такту і растаропнасьці. Нашая ўнутраная вера павінна ў некаторых абставінах стацца вераю вонкаваю, — паклонам Хрысту і Богу, — верай вонкаваю дзеля пашаны самой веры і каб належна сьветчыць нашым братам і навакольнаму сьвету».

Ужо найбольшая пара нам запытацца самых сябе, што мы зрабілі для сваей веры ў гэтым Годзе Веры, каб яе паглыбіць і ўзмацніць? — І што мы зрабілі, каб памагчы іншым стаць добрымі хрысьціянамі ці вярнуцца да веры, калі яе страцілі?

Калі адмаўляем Апостальскі Склад Веры («Верую . . .») пры малітве прыватнай ці ў царкве, ці стараемся думаць аб праўдах веры, якія вымаўляем? — Прачытаймо штосьці ў гэтым Годзе Веры аб праўдах нашае веры!

Трэба карыстаць з добрае нагоды, каб пагутарыць аб веры з салíднымі людзьмі дый належыць у іншых людзях разбуджаць і паглыбляць зацікаўленьне гэтымі справамі, бо якраз яны ёсьць самымі важнымі для чалавека.

У сумнівах трэба пытацца сьвядомых людзей, якія добра знаюцца і належна парадзяць, асабліва сьвятароў.

А найважней, каб шчыра маліцца аб веру, бо яна ёсьць Божым дарам. Так апосталы прасілі Ісуса Хрыста: «Господзе, прымнож нам веры!» Ці як няшчасны бацька маліў Хрыста аб сваім сынку: «Госпадзе, памажы майму недаверству!» (Марк, 9, 24).

---

*Я. Савіцкі*

# Біблія — Сьвятое Пісьмо

І. Пісалася Сьвятое Пісьмо на працягу доўгіх гадоў: першыя кнігі Старога Запавету — 5 кніг Майсея — напісаны каля 1500 г. да Нараджэньня Хрыста, а апошняя Яна Апостала — «Аб'яўленьне» («Апокаліпсіс») — каля 100 г. пасьля Нараджэньня Хрыста. І там у разьдзеле 22, верш 21 канчаецца славамі: «Ласка Госпада нашага Ісуса Хрыста з вамі ўсімі. Аман». І гэтым замыкаецца ўсё Сьвятое Пісьмо: больш ніхто ўжо ня можа нічога далажыць!

Мы ўжо гаварылі аб тым, што Сьвятое пісьмо было пісана людзьмі пад натхненьнем Сьвятога Духа: значыць, там няма памылак супраць сапраўднае веры. Аднак могуць здарацца памылкі даўнейшых перапісчыкаў ці перакладчыкаў або пахібы друкароў.

Адносна сучаснае навукі, калі атэісты закідваюць розныя памылкі ці, (як кажуць), «няпраўды» ў Бібліі, дык трэба ведаць, што Біблія ня ёсьць школьным падручнікам прыродазнаўства ці геалёгіі, але гэта — кніга рэлігійная, падручнік веры. Біблія навукаю спэцыяльна не займаецца, а Царква навуцы не пярэчыць. Калі ўзнікалі ў сярэднявеччы спрэчкі ў гэтай справе, дык гэта было незразуменьне адносінаў між верай і навукай, калі вучоныя ці багасловы ўважалі Біблію непамыльнай кнігай таксама і ў прыродазнаўстве.

Біблія пісалася для людзей сваей эпохі і аўтары выражалі папулярныя пагляды свайго часу: напрыклад, аўтары не маглі пісаць, што зямля ёсьць круглай куляй і лятае навокал сонца, бо тады ніхто-бы ім не паверыў, дый яны і самі гэтае справы ня ведалі, дый гэта ня было патрэбным для веры ў Бога. Ім трэба было выказаць, што сьвет выйшаў ад Бога і што людзі таксама паходзяць ад Бога і да Бога пойдуць на Суд, каб атрымаць нагароду або кару за свае ўчынкі.

Значыць, надарэмна атэісты стараюцца вычытаць і «падлавіць» Сьвятое Пісьмо ў памылках і «няпраўдах»!

Мой сьледчы ў Сібіру гаманіў мне, што чытаў «Сьвятое Пісьмо» і ня мог сьцярпець тых пахібаў супраць навукі — аж парваў і спаліў тую Біблію!

А тымчасам Біблія — самая паважная, сьвятая і старая КНІГА, якая ад свайго пачатку лічыць 35 стагодзьдзяў — пeражыла ўсе кнігі сьвету: перапісвалі яе на папірусе, на пэргамэнце і на паперы да 15-га стагодзьдзя, а пасьля друкуюць дасюль. І няма ніводнае так папулярнае кнігі на працягу ўсіх вякоў, якая-бы ішла ў такім ліку паасобнікаў і перакладалася на ўсе мовы сьвету і чыталася простымі людзьмі, а таксама і вучонымі, як Сьвятое Пісьмо!

І ў наш «атамны век» Біблія не страціла ні значэньня, ні чытачоў, апрача — ведама — краёў, дзе атэізм прасьледуе і рэлігію і Біблію. Аднак тут грае ролю не навука, а людзкая злосьць і шатанская ненавісьць, якая дзеіць ня доказамі навукі, а толькі прымусам і тэррорам.

ІІ. Далей будзем гаварыць аб характары Старога і Новага Запавету.

Вялікая розьніца існуе між Старым і Новым Запаветам. Найперш у адносінах да Бога: у Ст. Запавеце Бог аказваецца як Стварыцель, Валадар і Судзьдзя, у Якога людзі павінны верыць, баяцца і слухаць. А ў Новым Запавеце Бог аказваецца як Айцец — добры і міласэрны, у Якога верацъ, на Якога спадзяваюцца і Якога любяць.

У адносінах да Хрыста: Стары Запавет прадказываў і чакаў Хрыста-Збавіцеля, а Новы — ўжо Яго знае, прызнае і любіць. Боскі характар Хрыста ў Ст. Запавеце ня быў ясна выражаны так як у Новым.

Адным словам, Ст. Запавет — гэта парадак баязьні і падданства; а Новы мае характар любові — «з цэлага сэрца, з усяе сілы і над усё»!

І рэлігія Ст. Запавету — гэта Божае аб'яўленьне аднаму народу, а праз яго мела пераходзіць да ўсіх народаў сьвету. Аднак выбраны жыдоўскі народ вельмі звузіў сваё назначэньне і правы і агранічыў іх да справаў гэтага сьвету. Жыды чакалі Хрыста-Мэсыяша як Збавіцеля зь няволі палітычнай, а Ён аб'явіўся «Сынам Давідавым» для збаўленьня ўсяго сьвету ад грахоў.

Гэтак Стары Запавет стаіць значна ніжэй ад Новага, які ёсьць рэлігіяй унівэрсальнай — для ўсіх людзей і ўсіх часоў.

Але, хоць Ст. Запавет ёсьць прыгатаваньнем да Новага, мы аднак ня можам ні пагарджаць, ні адракацца ад яго: мы павінны пазнаваць яго бліжэй і адпаведна шанаваць, як псальмы Давіда, прароцтвы і інш. І нельга судзіць, што старая Біблія — гэта кніга жыдоўская, да якой мы не маем роўнага зь імі права, бо мы маем нават большае права ад жыдоў да ўсяго Старога Запавету: мы прызнаём і выконваем усё, што Бог прыгатаваў праз Сына Свайго Ісуса Хрыста для ўсяго чалавецтва, а найважнейшае, што мы прызналі Ісуса Хрыста Мэсыяшам і Збавіцелям усяго людзкога роду.

III. Супраць Старога Запавету падыймаецца найбольш з а к і д а ў з боку атэізму.

Найбольш аб *«шасьці днях* стварэньня сьвету». Тут ужо бязбожнікі лічаць, што мы, хрысьціяне, мусім прызнаваць тыя *«6 дзён»*, бо інакш перастаём лічыцца хрысьціянамі. Аднак гэта ня згодна з праўдай, бо тыя *«дні»* ня ёсьць дагматам нашае веры, а толькі людзкім меркаваньнем: дагмат веры, ад якога ніхто ня можа без граху адступіць, ёсьць тое, што Бог стварыў сьвет і людзей і што даў чалавеку разумную і вольную душу і што кожны будзе адказваць перад Богам за сваё жыцьцё на сьвеце.

А ўсё іншае, якое датычыць існаваньня сьвету і паўстаньня яго, падлягае чалавечай мудрасьці і навуцы, якая мае поўную свабоду дасьледваць і даходзіць, — як, калі і якім спосабам усё паўстала на нашым сьвеце? — А мы, будучы разумнымі людзьмі, маем абавязак прыймаць усё, да чаго дайшла і пракаралася навука, — Значыць, калі навука даказвае, што на нашай зямлі адбываліся вялізныя падзеі і катаклізмы, пакуль яна сфармавалася і стала здатнай да жыцьця, дык мы можам свабодна гэтага трымацца, і Царква нам не перашкодзіць.

Адносна тых «днёў», дык гэта была гісторыя для прымітыўных людзей таго часу, калі яно пісалася, каб ім было ясьней зразумела, што Бог сваёй сілай і магутнасьцяй стварыў сьвет. А іншыя тлумачаць, што Майсей меў такую візію ў душы і паводле яе апісаў паўстаньне сьвету. А яшчэ іншыя кажуць, што гэта — проста паэтычны спосаб апісаньня сапраўднага здарэньня.

Другі надта моцны закід робяць нам атэісты, што мы прызнаём шэсьць тысяч гадоў ад стварэньня сьвету, а тымчасам навука даказвае, што нашая зямля і ўвесь сьвет існуе мільёны і мільярды гадоў!

Тут мусімо выясьніць: 1) Навука ня мае яшчэ пэўнасьці аб часе паўстаньня нашае плянэты: ёсьць розныя гіпатэзы, значыць, здагадкі і меркаваньні вучоных. І гэтыя дапушчэньні мяняюцца, бо навука ўсьцяж разьвіваецца і даходзіць таго, што ня ёсьць відавочнае. Так што і тыя «мільярды гадоў» яшчэ ня ўсталеныя і навука іх толькі нашчупвае.

2) А мы, хрысьціяне, ня маем ніякага дагмату аб часе і абставінах паўстаньня нашае зямлі: мы толькі цьвердзім і верым, што яна паўстала з Божае волі і моцы. Але якім спосабам і калі, дык гэта няхай вылічвае людзкі розум і навука.

3) Жыды лічаць цяпер 5 278-мы год ад стварэньня сьвету — такі давалі падлік даўнейшыя рабіны. І расейскія староверы, а таксама некаторыя з пратэстанскіх цэркваў, прызнаюць той тэрмін непахісным і бяспрэчным, што лічыцца «шэсьць тысяч гадоў» ад пачатку сьвету. Аднак ані ў каталіцкай Царкве, ані ў Праваслаўнай такой веры (дагмату) няма.

Аб календары раскажам наступным разам: хоць гэта справа не дагматычная, але вельмі цікавая.

*а. Я. Г.*

# «Сьледам за Хрыстом»

Пасьля Сьвятога Пісьма, а нават пасьля самога Эвангельля, кніжка «Сьледам за Хрыстом» ёсьць творам самым ведамым і пашыраным на сьвеце — ня толькі ў кругох каталіцкіх, але і ў іншых хрысьціянскіх народах, а нават і няхрысьціянскіх. Пераложана яна на ўсе паважныя мовы і нат на гаворкі — апрача эўрапэйскіх — на мову арабскую, кітайскую, японскую, армянскую, малайскую, сырыйскую, гэбрайскую і інш.

Нельга, праўда, раўнаважыць гэтае кніжкі з Сьвятым Пісьмом, аднак можам сьмела сказаць, што гэты твор пасьля Эвангельля стаіць на першым месцы ў мудрасьці і вартасьці духовай — так яе ацэньвалі паважныя і сьвятыя людзі, як напрыклад Папа Ян XXIII, які ахвотна чытаў і разважаў замкнёныя ў кніжцы «Сьледам за Хрыстом» думкі.

Хоць у апошніх часох некаторыя людзі прабуюць ставіць закіды гэтай кніжцы, што яна ўжо ўстарэла і не надаецца на нашыя часы, або што ў ёй няма ўспамінаў пра Сьвятую Багародзіцу і інш. бракі і недахопы, аднак агульная думка чалавецтва далей трымаецца гэтае дастойнае кніжкі і чытаюць яе для падтрымкі свайго духа, асабліва людзі сумныя і няшчасныя. Бо гэтая кніжка абапёртая на Сьвятым Пісьме і на здаровай практычнай філязофіі жыцьця: дае чалавеку добрыя рады, нясе пацеху, вынішчае заганы, прымушае задумацца і разважаць заданьне дачаснага жыцьця, словам, заклікае нас ісьці «Сьледам за Хрыстом». І ўсе думкі высказаны мовай кароткай, простай, зразумелай самаму нявучонаму, але яна дае матэрыялу для задумы і вялікаму вучонаму і мудраму чалавеку.

Аўтарам гэтае кніжкі ёсьць манах з Закону Рэгулярных Канонікаў, Тамаш з Кэмпіс (нарадз. ў 1379, пам. у 1471). Хаця аўтарства гэтае было доўга аспрэчвана і няпэўнае, аднак ужо цяпер гісторыкі пераважна згаджаюцца на асобу Тамаша з Кэмпіс, хоць ён сваей фаміліі не падпісаў у кніжцы.

На беларускую мову «Сьледам за Хрыстом» пералажыў з лацінскае мовы Др. Ст. Грынкевіч; а выдаў яе ў 1934 у Вільні Кс. Адам Станкевіч, рэдактар «Хрысьціянскае Думкі». Разыходзілася вельмі пасьпяхова, але цяпер на эміграцыі можна яе спаткаць у малазначным ліку ў вынятковых асобаў.

Думаем, што трэба было-б выпусьціць новае выданьне для эміграцыі ў альфабэце кірылічным, каб зрабіць даступнай для самых шырокіх кругоў нашых суродзічаў.

Каб зацікавіць чытачоў «Божым Шляхам» гэтай папулярнай кніжыцай, будзем падаваць выняткі-думкі найбольш хвалюючыя і пераканаўчыя для развагі і пацехі паважнага чалавека.

## ВЫБРАНЫЯ ДУМКІ З КНІГІ «СЬЛЕДАМ ЗА ХРЫСТОМ»

*«Хто йдзе за мной, ня ходзе ў цемры»* (Ян 8, 12). Вось гэта словы Хрыста, якімі нам напамінае, каб мы насьледвалі Ягонае жыцьцё і абычаі, калі хочам сапраўды асьвяціцца ды ўвольніцца ад сьлепаты сэрца.

Дык самай важнай нашай працай няхай будзе разважаньне жыцьця Ісуса Хрыста.

Навука Ісуса Хрыста вышэй за ўсе навукі сьвятых . . .

Аднак бывае, што многія часта слухаюць Эвангельле, але мала яго адчуваюць, бо ня маюць Хрыстовага духу.

Якая табе карысьць з глыбокіх разважаньняў аб Тройцы, калі з нястачы пакоры ты нямілы Тройцы?

Сапраўды, высокая гутарка ня зробіць чалавека сьвятым і справядлівым, а толькі цнотнае жыцьцё робіць яго мілым Богу.

Калі-б ты ўмеў на памяць усю Біблію ды навукі ўсіх філязофаў — на што табе гэта прыдалося-б, калі-б ты ня меў любові і ласкі Бога?

*Марнасьць з марнасьцяў і ўсё марнасьць,* (Экклез. 1, 2), апроч аднаго Бога і службы Яму самому.

Вось дзе найвялікшая мудрасьць — праз пагарду сьвету імкнуцца да нябеснага валадарства.

Дык марнасьць — шукаць мінаючых багацьцяў і на іх спадзявацца.

Марнасьць — шукаць сабе славы і падымацца на высокія становішчы.

Марнасьць — ісьці за пажаданьнямі цела і таго хацець, скуль павінна некаліс выйсьці цяжкая кара.

Марнасьць — хацець доўга жыць, аб добрым-жа жыцьці мала старацца.

Марнасьць — зважаць на сяньняшняе жыцьцё і не глядзець у будучыню.



*Патр. Атэнагорас ахвяраваў і запальвае лямпаду на гробе Сьвятога Пятра.*

Марнасьць — любіць тое, што так хутка мінае і туды не сьпяшацца, дзе трывае вечная радасьць.

Дык старайся адцягваць сваё сэрца ад міласьці рэчаў відомых, зварочвацца да нявідомых.

Бо тыя, што ідуць за сваей пажадлівасьцяй, плямяць сваё сумленьне і губяць ласку Бога.

*

Кожны чалавек з натуры імкнецца да веды, што-ж аднак значыць мудрасьць без баязьні Бога?

Лепшы, сапраўды, просты вясковец, які служыць Богу, чымся горды філязоф, які абняхаўшы сябе самого, разглядае рух нябесных зорак.

Хто сябе добра знае, той надта маленькі ў сваіх вачох і ня цешыцца з людзкое хвальбы.

Калі-б я ведаў усё, што ёсьць на сьвеце, а ня меў-бы любові, што-ж мне гэта памагло-б у Бога, які асудзіць мяне з маіх учынкаў?

Чым больш і лепш ведаеш, тым цяжэй будзеш суджаны, калі тым больш багабойна жыць ня будзеш.

*«Ня думай высока аб сабе»* (Рымл. 11, 20).

Калі-б ты бачыў, што нехта грашыць ды нават і цяжка, ня думай, што ты аднак лепшы, таму што ня ведаеш, ці доўга вытрываеш у добрым.

Усе мы слабыя, але ты ўважай сябе за слабейшага.

*

О, Боская Праўда! Дазволь, няхай я буду адно з Табою ў вечнай любові!

Няхай замаўчаць усе творы перад Тваім воблікам — Ты адзін гавары да мяне!

І гэта павінна быць нашым заданьнем — змагацца з самым сабою, кожны дзень рабіцца дужэйшым над сабой і хоць крыху ставацца лепшым.

# З царковнага жыцьця

## ПАТРЫЯРХ АТЭНАГОРАС I Ў РЫМЕ — У ВАТЫКАНЕ

Якраз супала з заканчэньнем Сыноду, што прыбыў у Ватыкан Патр. Атэнагорас I-ы. На шчасьце, здароўе Паўла VI пазволіла яму належна спаткаць і прыняць Высокага Гасьця.



*Папа Павал VI і Патр. Атэнагорас I багаслаўляюць народ у базыліцы Сьвятога Пятра.*

Гэты факт мае значэньне гістарычнае і экумэнічнае.

Узаемныя адведзіны Паўла VI і Атэнагара I-га сьветчаць аб тым, што зьмяніліся адносіны між Царквою Каталіцкаю і Праваслаўнаю на лепшае і што справа ідзе да поўнае згоды.

Апошні Папа, які адведываў Канстантынопаль, быў Канстантын I-ы, які адведваў Патрыярха і імпэратара ў 710 годзе дый прыняты там быў зь вялікім гонарам.

З гэтага вынікае, што мы жывём на пераломе царкоўных адносінаў, каб споўніўся загад і малітва Хрыста, «каб усе былі адно» і каб «было адно стада і адзін Пастыр».

*

ВАТЫКАН: Пасьля падарожы ў Турцыю Папа Павал VI пачуваўся не цалкам здаровы — аж спэцыялісты-дактары прызналі патрэбу апэрацыі. Аднак удалося адлажыць апэрацыю на вальнейшы час — пасьля Сыноду і Кангрэсу Сьвецкіх каталікоў у Рыме. Такая дыягноза дактароў аказалася трапнай і магчымай і вось 4-га лістапада адбылася апэрацыя ў самым Ватыкане.

Увесь сьвет каталіцкі, а таксама і некаталіцкі, вельмі непакоіўся і дапытываўся ў Ватыкане, які будзе вынік апэрацыі: на шчасьце апэрацыя ўдалася і Хворы нармальна і паволі папраўляецца, а нават прыймае паважнейшыя справы да сваей дэцызіі.




*Патр. Атэнагорас моліцца ля гробу Папы Яна XXIII — у падзямельлі Базылікі Сьвятога Пятра.*

Гэта вялікая Божая ласка, што з такіх цяжкіх недамаганьняў (ныркі і страўнікова грыпа і інш.) Папа прыходзіць да поўнага здароўя! Тымбольшы што ў сваіх слабасьцях правёў памысна Сынод — ад 29 верасьня да канца кастрычніка, а таксама турбаваўся аб Кангрэсе Сьвецкіх (11-X да 18-X).

Адбыты Сынод, як пішуць знаўцы і спэцыялісты, прайшоў вельмі памысна, так што можна спадзявацца — ён ня будзе аднаразовым выпадкам у Катал. Царкве, а будзе склікацца кож-

ныя два гады, каб актыўна памагаць Папе ў кіравецтве Царквою, перадусім, як орган дарадчы.

Асноўная мэта гэтага Сыноду была — увесьці ў жыцьцё пастановы II-га Ватыканскага Сабору, — і сапраўды Сынод вельмі старанна гэтай справай займаўся, так што — можна казаць — Сынод зьяўляўся працягам Сабору і дапаўненьнем яго.

Кангрэс Сьвецкіх Каталікоў прайшоў таксама памысна, хоць некаторыя «гарачыя галовы» ўносілі праекты занадта сьмелых рэформаў у Каталіцкай Царкве. Такія праекты ня былі прынятыя бальшынёю Кангрэсу, але ўсё-ж не асталіся без увагі царкоўнае ўлады, якая мусіць іх глыбока перадумаць, а магчыма і ўвесьці ў жыцьцё.

*

## ПАПА ПАВАЛ VI АБ НАРОДАХ АФРЫКІ

Пад канец кастрычніка г. году Павал VI ў сваім пасланьні (лісьце) да народаў Афрыкі парушыў важнейшыя праблемы гэтых краёў. Спачатку высказаў сваю радасьць, што ўжо ледзь ня ўсе народы гэтага кантынэнту цешацца сваімі незалежнымі дзяржавамі і што многія зь іх нямала зрабілі дзеля поступу і культуры жыцьця — палітычнага, гаспадарчага і грамадзкага. Далей кажа, што як кожнае дабро родзіцца і ўзрастае сярод цяжкасьцяў, так і афрыканскія народы, асабліва некаторыя зь іх, пражываюць вялікія закалоты і змаганьні ўнутраныя і вонкавыя з прычыны расізму ці іншых праяваў нязгоды. Вынікам гэтага здараюцца многія ахвяры людзкога жыцьця і матар'яльнага дабра. Папа Павал VI рашуча асуджае расізм, як нягуманітарнае зьявішча ў сьвеце і заклікае да згоды і справядлівасьці: пашана людзкой годнасьці і любоў бліжняга — гэта асноўныя хрысьціянскія прынцыпы, на якіх павінны будавацца новыя грамадзтвы і дзяржавы, каб стацца моцнымі і трывалымі.

Пасьля Папа закрануў дзьве важныя праблемы Афрыкі: 1) Няпісьменнасьць і 2) Прымітыўнасьць у земляробстве.

Адносна народнае асьветы Папа сказаў, што яна ёсьць для гэтых народаў асноўнай патрэбай: «Голад асьветы ёсьць ня меншым чым голад хлеба». Але так адна як і другая патрэба ня можа быць заспакоена бяз помачы народаў зь іншых кантынэнтаў, болей разьвітых і адукаваных. Толькі-ж да гэтае пары жыцьцё паказвае, што — на жаль — помач іншага народу нясе пагрозу няволі (нэо-каляніялізму), чаго афрыканскія народы вельмі баяцца. Таму Папа аднаўляе сваю прапанову, якую ставіў у Энцыкліцы «Progressio populorum» — стварыць Міжнародны Фонд, зь якога афрыканскія народы маглі-б карыстаць без баязьні страты ці шкоды сваей незалежнасьці.

У справах Царквы Папа зьвяртаецца з гарачым заклікам да кіраўнікоў і ўладаў у дзяржавах Афрыкі — забясьпечыць поўную свабоду хрысьціянскае рэлігіі. (Яшчэ ў многіх дзяржавах верхаводзяць улады паганскія або музулманскія). «Царква — кажа Папа — просіць вас — даць свабоду веравызнаньня і прапаведніцтва веры, свабоду любові Бога і служэньня Яму... Дзейнасьць Царквы не ўваходзіць у вашыя прывілеі, але аздараўляе ўсялякія людзкія немачы, няраз вельмі цяжкія, робіць чалавека лепшым і напаўняе яго надзеяй, праўдай і прыгожасьцю». Заклікае іх таксама, каб як кіраўнікі, так і будаўнікі новага жыцьця сваіх народаў асноўвалі гэтае жыцьцё на багацтве сваіх традыцыяў.

У звароце да інтэлігенцыі Папа заахвочвае іх, каб ня толькі сьлядзілі і пераймалі ўсё новае, але каб шанавалі спадчыну сваей культуры і каб новае жыцьцё ў іх разьвівалася ў плодных пошуках ПРАЎДЫ.

Сем'ям прыпамінае, каб стаялі на варце асноўной вартасьці сужэнства — яго адзінства і неразрыўнасьці. Жанчынам, каб «становіліся больш сьведамымі сваей жаночай і матчынай годнасьці і таксама свайго права да жыцьця грамадзкага і поступу ў Новай Афрыцы».

Маладое пакаленьне — моладзь называе «надзеяй будучыні». І кажа: «Вы ёсьць першымі, якія хочуць дакладна пазнаць значэньне і вартасьць старадаўнай афрыканскай традыцыі. І вы ёсьць першымі, якія хочуць яе аднавіць і даць ёй сучасную форму».

Нарэшце Папа хоча перасьцярэгчы афрыканскія народы перад матар'ялізмам.

«Сапраўды, вашая задача — перамагчы супраціўы, якія ўзьнікаюць з боку людзей загледжаных у мінулае і людзей хочучых новага жыцьця; аднак будзьце асьцярожнымі адносна лёгкіх і прывабных матэр'ялістычных тэорыяў, якія небясьпечна могуць прывесьці да блуднага і павярхоўнага паняцьця (разуменьня) гуманізму а нават да адступніцтва ад Бога».

«Асабліва — кажа — вы, хрысьціяне, павінны быць сьведамы годнасьці і адказнасьці, якая ўзьнікае з хрысьціянскае веры».

*

ЮГАСЛАВІЯ: Нарэшце камуністычны ўрад Югаславіі пазволіў уладзіць у Югаславіі Эўхарыстычны краёвы Кангрэс Каталіцкае Царквы, але забаранілі ладзіць працэсіі навонках касьцёлаў, а таксама і Літургіі на пляцах гарадоў. Апрача таго самі назначылі, каб адцягнуць народ ад набажэнства, самаходныя перагонкі, роз-

ныя парады і мэч боксэраў — у тых мясцох і гадзінах, калі адпраўлялася ў касьцёлах набажэнства. Такія штучныя перашкоды сьветчаць аб тым, што камуна заўсёды вяжацца з хітрым атэізмам.

*

ВЭНЭЦУЭЛЯ (у Паўдз. Амэрыцы): 25% памірае дзяцей, што дрэнна аджыўляюцца. І ўсьцяж узрастае колькасьць разводаў і незаконна народжаных дзяцей, а 200 000 дзяцей бяспрытульных цягаецца па вуліцах. Увесь сьвет зьвяртае ўвагу на такі мізэрны стан грамадзкага жыцьця і апэлюе да Біскупаў Вэнэцуэлі, каб сьпехам шукаць на гэта якой рады і ратунку!

*

ЗЛУЧ. ШТАТЫ АМЭРЫКІ: У розных пунктах па вялікіх гарадох паўстаюць «пробныя» парахвіі, дзе людзі групуюцца паводле падобнае прафэсіі, каб асобна адпраўляць набажэнства. Тымчасам гэта групы невялікія, але ўжо Біскупы зьвярнулі на іх увагу і выражаюць сваё нездаваленьне, бо гэтыя новыя парахвіі разьбіваюць стары парадак парахвіяў тэрыторыяльных — для ўсіх каталікоў.

А ў тых «пробных» групах адпраўляюць набажэнства спосабам адменным: замест касьцельнае навукі твораць «дыялёг» сьвятара з народам, агульнае духоўнае чытаньне і песьні. А дзяцей лучаць асобна, дзе тады ім ладзіцца катахізм. Ня ведама, ці такі новы «рух» будзе мець памысную будучыню?

*

ФРАНЦЫЯ: У гор. Страсбургу сабралася 40 тэалёгаў-багасловаў, якія ад 2 да 6 кастрычніка разважалі агульныя праблемы хрысьціянства. У гэтай канфэрэнцыі прыймалі ўдзел прафэсары каталіцкія, праваслаўныя, англіканскія, лютэранскія і кальвінскія. У апошнім часе падобныя сабраньні — «экумэнічныя» — здараюцца штораз часьцей у розных краёх сьвету.

*

КАРАКАС (Вэнэцуэля): Адбываюцца таксама зьезды прадстаўнікоў каталіцкіх і жыдоўскіх. У пачатку кастрычніка вялі «дыялёг» між сабою прадстаўнікі 45 краёў сьвету — каталікі і жыды. Жыдоўскі лідар Бэнямін Эпштэйн зь Нью Ёрку сьцьвердзіў, што адносіны ўзаемныя гэтых рэлігіяў ад часу II-га Ватыканскага Сабору вельмі ўзмацніліся: разьвіваецца давер і прыязьнь.

*

ІНДЫЯ: Тут лічыцца 6 600 000 каталікоў, але гэты працэнт надта малы ў параўнаньні да ўсяго насельніцтва. Аднак рух каталіцкі значна ўзрос пасьля Кангрэсу ў Бамбэі ў 1964, ад 28.—XI. да 6.—XII. А 2 сьнежня прыбыў туды Папа Павал VI.

Насельніцтва ўзрастае бязьмерна — больш 10 міл. у год, дык ніякая помач ня можа выкарміць галодных і недаядаючых — тымбольш, што каровы, пацукі і малпы («сьвятыя») — зьядаюць прысланую пшаніцу.

Мала памагаюць рэформы і агранічэньне народзінаў. Толькі прыняцьце хрысьціянскае веры можа ўратаваць народ ад згубы!

3 500 год таму, як занялі Індостан арыйцы — раса, да якой належаць усе белыя. У пачатку хрысьц. эры прыбылі сюды тюркі, манголы і афганы. У XVI веку — партугальцы, пасьля іх перамаглі французы, а ў XVII — ангельцы, якія паволі ўкараніліся на доўга. У Эўропе лічылі, што Індыя — найбагацейшы край на сьвеце, «дзе перац расьце».

У 1947 ад Індыі аддзяліўся Пакістан (дзеля пераважнай музулманскай рэлігіі) і Цэйлён, а ў 1950 Індыя стала незалежнай — шчасьлівай, але галоднай.

У Індыі каля 700 розных моваў і дыялектаў, а зь іх 15 моваў афіцыяльных. Найбольш ведамая мова гінду, якая займае месца ангельскай, бо гэтую хочуць адкінуць; але тымчасам няма магчымасьці паразумецца з усім народам у іншых мовах.

На большае няшчасьце ў Індыі трывае заразная і вельмі цяжкая хвароба проказа: тут да трох з паловай мільёнаў такіх хворых, якіх надта трудна вылячыць!

*

КАНАДА: Кардынал з Монтрэаля, архібіскуп Павал Лежэр, адыйшоў ад свайго абавязку і месца, каб пайсьці даглядаць пракажоных у Афрыцы. Ён ужо некалька гадоў таму прасіў у Ватыкане, каб звольнілі яго із становішча, але Папа Ян XXIII і Павал VI дасюль пазваленьня не далі. Аднак у апошнім часе Павал VI звольніў кардынала ад высокага пасаду на самую нізкую паслугу пракажоным. Кард. Лежэр мае 65 гадоў.

І яшчэ вестка з Канады: Праваслаўны Біскуп Монтрэалю, Віталій Устінов, адправіў урачыстае жалобнае набажэнства за зьнішчаных людзей у Расеі падчас 50-ці гадоў рэвалюцыі, якой ганебны Юбілей сьвяткуюць камуністы.

А загінулі нявінныя людзі ў турмах, у лягерах, на цяжкіх работах у Сібіры і на поўначы Расеі, таксама ад голаду і пры перавозках зімою ў неагрэтых вагонах і пры іншых жорсткіх нагодах. — Найгоршымі тыранамі былі першыя верхаводы рэвалюцыі — Ленін і Сталін.

У ліку зьнішчаных людзей было 60,000 сьвятароў і 400 япіскапаў.

З беларускага насельніцтва ворагі нашага народу і рэлігіі вынішчылі адносна яшчэ большы процант людзей і духавенства — праваслаўнага і каталіцкага.

*

НЯМЕЧЧЫНА — (Усходняя), ВІТТЭНБЭРГ: Тут сьвяткавалі памятку 450 Рэфармацыі, калі ЛЮТАР у 1517 г. прыбіў да касьцельных дзьвярэй свае 95 тэзаў супраць Каталіцкае Царквы. Гэтая дата лічыцца пачаткам Лютэранскае Царквы: лютаране вельмі урачыста сьвяткуюць гэты свой юбілей.

Аднак камуністы Усходняй Нямеччыны называюць Лютэра сваім рэвалюцыянэрам і мяшаюцца ў рэлігійнае сьвяткаваньне: лютэранскае духавенства і вернікі вельмі жыва пратэстуюць супраць атэістаў і іхняе тактыкі.

## З беларускага жыцьця

### ВЫСТАЎКА СКАРЫНЫ Ў ЛЁНДАНЕ

Каб адзначыць 450-тыя ўгодкі беларускага друку, Беларускі Музэй у Лёндане наладзіў выстаўку прысвячаную жыцьцю і творчасьці Францішка Скарыны. Выстаўка складаецца з трох частак. У першай частцы знаходзяцца рэпрадукцыі з кнігаў Скарыны, пераважна з тых, якія знаходзяцца ў бібліятэцы Брытанскага Музэю. Другая частка ілюструе дзейнасьць наступнікаў Скарыны — Цяпінскага, Зізанія, братоў Мамонічаў і брацкай друкарні ў Вільні. Нарэшце у трэцяй частцы сабраная багатая літаратура аб беларускім першадрукару. Усе экспанаты маюць абшырныя і добра апрацаваныя паясьненьні. З эстэтычнага пункту гледжаньня выстаўка робіць вельмі прыемнае ўражаньне і дае магчымасьць наведвальнікам пазнаёміцца з дзейнасьцю Скарыны і ягонай роляй у гісторыі беларускай культуры.



*Настаўнікі і вучні школы сьв. Кірыла Тураўскага ў Лёндане.*

Выстаўка была афіцыяльна адчыненая ў нядзелю 29-га кастрычніка і будзе трываць да канца сьнежня. Вялікая колькасьць беларускіх і ангельскіх гасьцей ужо наведала выстаўку. Беларускі Музэй знаходзіцца ў памешканьні Школы сьв. Кірыла.

### ВЕЧАР ПАМЯЦІ АХВЯРАЎ КАМУНІЗМУ

«Справядлівасьць вымагае, каб краіна, якая была месцам жыхарства Карла Маркса, дала таксама прытулак ахвярам камунізму». Гэтыя словы былі сказаныя Лёрдам Ст. Освальдам у ягонай уступной прамове на вечары прысьвечаным памяці ахвяраў камунізму, які адбыўся ў Рояль Альбэрт Гол у Лёндане у аўторак 31-га кастрычніка. Вечар быў зарганізаваны ангель-



*Беларуская група на ўрачыстасьці у Альбэрт Гол у Лёндане. Гаворыць сп. П. Навара.*

Фото: А. Лашука

скім «Гуртком замежных справаў» і меў жалобна-рэлігійны характар. У ім узялі ўдзел прадстаўнікі 19 краінаў, якія цяпер знаходзяцца пад камуністычнай уладай. Акрамя беларусаў там былі альбанцы, чэхі, эстонцы, вугорцы, латышы, летувісы, палякі, румыны, расейцы, украінцы, югаславы, кубанцы, кітайцы, карэйцы, тыбэтанцы і занзібарцы.

Сцэна Альбэрт Гол была ўпрыгожаная сцягамі нацыяў, якія бралі ўдзел у урачыстасьці. Пасьля прамовы Лёрда Ст. Освальда адбылося зла-



*Успаміны з лета. Хата «дзікіх людзей» у школьным садзе ў Лёндане.*

жэньне вянкоў пад сьцягамі прадстаўнікамі моладзі, па двух — хлопец і дзяўчына — ад кожнай нацыянальнасьці. Пасьля гэтага былі кароткія выступелньні кожнай нацыянальнай групы. Наканец адбылося палажэньне вянка пад брытанскім сьцягам і благаславенства, якое даў прысутны на ўрачыстасьці праваслаўны румынскі япіскап.

Ад беларускай групы выступіў з кароткай прамовай старшыня ЗБВБ сп. П. Навара. Сп. ня і Сп. шня Рыч прадэклямавалі па ангельску верш Янкі Купалы «Перад бурай» і хор беларускіх хлопцаў засьпяваў «Магутны Божа» і «Вечная памяць». Вянок пад беларускім сьцягам палажылі Фрыдгальм Сенькоўскі і Тарэза Савіцкая. Акрамя гэтага група беларускіх дзяўчат у нацыянальных строях, побач з дзяўчатамі іншых нацыянальнасьцяў, прадавалі праграмы сярод прысуных.

На ўрачыстасьці было прысутных каля 3 000 людзей.

## КУРС БЕЛАРУСАВЕДЫ

У пятніцу 17-та лістапада пачаўся ў Лёндане другі курс лекцыяў з гісторыі беларускай культуры, ладжаны Ангельска-Беларускім таварыствам. Лекцыі будуць прадаўжацца да 27-га лютага 1968 г. Сярод выкладчыкаў знайходзяцца праф. Р. Дэ Брэй, сп. А. МкМільлін, (абодвы выкладчыкі на Лёнданскім Унівэрсытэце), сп. Г. Пікарда, Др. М. Данілевіч і а. А. Надсон.

## ПІЛЬГРЫМ ЛЮБОВІ І ПАГАДНЕНЬНЯ

У часе ад 9-га да 13-га лістапада быў у Лёндане Яго Сьвятасьць Атэнагор І, Патрыярх Канстантынопальскі. Ён прыехаў сюды на запросіны Англіканскага Архіепіскапа Кантэрбэрыйскага Міхала Рамзэя. Перад гэтым Патрыярх адведаў Папу Паўла VI-га ў Рыме і Сусьветную Раду Цэркваў у Жэнэве.

У пятніцу 10-га лістапада Архіяпіскап Рамзэй ладзіў у палацы Лямбэт прыняцьце ў чэсьць Патрыярха. На прыняцьці было прысутных шмат царкоўных дастойнікаў і іншых гасьцей розных веравызнаньняў і нацыянальнасьцяў. Ад беларусаў быў там а. А. Надсон. Пасьля прыняцьця была ў Вэстмінстэрскім Абацтве ўрачыстая вячэрня, у часе якой Архіепіскап Рамзэй прывітаў Дастойнага Гасьця і даў яму на памятку чашу.

У нядзелю 12-га лістапада Патрыярх служыў сьв. Літургію ў лёнданскім грэцкім праваслаўным саборы сьв. Сафіі. Сярод прысутных высокіх дастойнікаў іншых веравызнаньняў былі Архіепіскап Рамзэй, каталіцкі Апостальскі Дэлегат Архіепіскап І. Кардынале і вікарны Вэстмінстэрскі епіскап Батлер, а таксама армянскі епіскап. Між шматлікімі вернікамі, якія напаўнялі царкву не бракавала і беларусаў: была там між іншымі і Школа сьв. Кірыла ў поўным складзе.

У казаньнях Патрыярха, а таксама Лёнданскага грэцкага архіепіскапа Атэнагора і архіепіскапа Рамзэя пераважала тэма патрэбы збліжэньня і большага зразуменьня між усімі тымі, якія сябе лічаць пасьлядоўнікамі Госпада Нашага Ісуса Хрыста.

Яго Сьвятасьць Патрыярх Атэнагор І ад хвіліны ягонага выбару на патрыяршы пасад у 1948 годзе паказаў сябе нястомным працаўніком дзеля збліжэньня і пагадненьня ўсіх хрысьціянаў. Ягонае падарожжа па Эўропе, апошнім этапам якога былі ягоныя адведзіны Лёндану, мела таксама гэтую мэту. Дзеля гэтага можна назваць гэтае падарожжа пільгрымкай любові і пагадненьня.

# З лістоў у рэдакцыю

РЫО-ДЭ-ЖАНЭЙРО:

Вельмі Паважаны а. Рэдактар!

Шчыра дзякую Вам за турботы і ўсім тым Дабрадзеям, якія ад Вас і праз Вас памагаюць мне старому і недалужнаму дзеду!

Здароўе — такое-сякое: як горш прыцісьнець дык трэ паляжаць: лячуся лекамі, якія магу здабыць для падтрымкі, але найбольш сілай волі дый памагае добры Божанька.

На нашай тут гарэ, як спакойна, чуюся нязгорш: спусьціцца ўніз ня трудна, але падняцца цяжка. Усё-ж, пацеючы-задыхаючыся і адпачываючы, памаленьку дапаўзаю да хаты.

І дзякую Богу, што даець крыху пацярпець, бо як-жа памерці доктару, не хварэўшы самому? Дый што там на гэтае скажа сьвяты Пятрок?..

Хацеў-бы яшчэ папрацаваць, як даўней, памагчы другім, але ўжо ня маю на гэта ніякае сілы.

Канчаецца ў нас зіма, а гэта найлепшы тут час: летам будзе зноў горача, аднак пэўна я не растаплюся на сонцы, бо няма ўва мне чаму. Апошнія гады залівала нас вадою, а цяпер пяты месяц няма дажджу і мы, бедныя горныя жыхары, сохнем без вады.

Другі чэк на 20 даляраў, які я атрымаў, выплаціў мне банк не далярамі, але круцэйрамі, тлумачаць якімісь там новымі іх законамі.

Дзякую ўсім тым Братам-Беларусам, якія з добрае волі памагаюць мне недарэку; а я не магу і ня маю чым адплаціць, толькі маю часіну й добрую нагоду за іх усіх маліцца.

З пашанаю Віктар Небядовіч

18. X. 1967.

*

МЭЛЬБУРН — АЎСТРАЛІЯ:

Атрымаў № 4 «Божым Шляхам», дзякую! Гэты № цікавы і багаты зьместам і дзякуем Рэдактару за шырокі і цікавы агляд і падыход да сучаснасьці. Думаю, што ўсім чытачом спадабаецца. Колькі дзён таму пераслаў праз банк на ваш адрас 5 даляраў за кніжкі «Успаміны» і на «Божым Шляхам».

Сяньня езьдзілі над рэку, якая 30 міляў ад нас. Былі калісь колькі разоў і заўсёды з прыемнасьцяй: таксама і сяньня — тымбольш, што пагода была цёплая, то выкарысталі каб купацца і фатаграфавацца. Ціхі вясняны прадвечар. Як вокам кінуць зелена: там пасуцца каровы, тут нівы маладой пшаніцы, а над рэчкаю — грамадныя дрэвы.

Прыпомнілася, што нядаўна чуў ад аднаго беларуса, якому «пашчасьціла» наведаць Беларусь. Паказвалі яму калгасы, якія — кажа — зігацелі чыстатою і сьвятлом электрычных лямпачак. Але гэта было там, дзе зьмяшчаліся каровы і сьвіньні. І можна было-б цешыцца, што на нашай Бацькаўшчыне так пачалі сяньня рупіцца пра жывёлу, якая яшчэ нядаўна да вясны ледзь дацягала, каб не факт — што людзі ў гэтых калгасах, якія «абслугоўвалі» кароў і сьвіней, былі самі занядбаныя і жылі ў памешканьнях, скупа асьветленых малымі лямпачкамі.

Так, скіроўваючы ўвагу на жывёлу, улада, якая ўсцяж барабаніць аб шчасьці чалавека, забываецца аб тым самым чалавеку: ён выйшаў на другі плян.

Гэта вельмі сумны факт, як і другі, што расейшчына залівае Беларусь. Але ёсьць на пацеху і факт трэйці: цяпер людзі там больш адважна пачынаюць дамагацца сваіх — канстытуцыяй прызнаных — правоў. Хаця і глушаць перадачы радыё з Захаду, усё-ж беларусы слухаюць Голасу Амэрыкі і Радыя Вызваленьня з Мюнхэну дый пільна сачаць за зменамі, якія адбываюцца на Захадзе, у вольным сьвеце. І нават афіцыяльна за гэта ўжо не караюць. Так зьмяняецца жыцьцё і на нашай Бацькаўшчыне.

Праўда, і мы зьмяніліся на Захадзе. І ніхто ня хоча там астацца: вяртаюцца хутчэй, як трэба, і цешацца, што можна тут жыць, дзе напачатку таксама было цяжка.

Перадаём прывітаньне ўсім Беларусам у Англіі.

Шчыра Вам адданы — Н. М.

15. X. 1967.

ЛІСТ З ВІЛЬНІ

Адзін з нашых чытачоў прыслаў нам ліст, які атрымаў ад сваей фамільяткі, якая наведала Вільню і Ліду. Залучаем выняткі з таго пісьма, якое насьвятляе палажэньне касьцёла ў тамашніх старонах.

... Толькі 1-га верасьня я вярнулася з родных старон. Прывітаньне Табе зь Вільні і Ліды. Некалькі дзён была я ў Вільні. Гэта прыгожы горад. Мы былі (ўжо з унукам) у Вострай Браме. Малілася я і ў тваёй інтэнцыі да Божае Маці.

У Вострай Браме — толькі тры сьвятары. Толькі адна сьв. Імша па польску, рэшта па летувіску. У катадры сьв. Станіслава ёсьць у гэ-

тым часе выстава абразоў (музэум). Мова там толькі расейская і летувіская, а на Беларусі (усходнія землі) то нічога польскага няма. Ані аднэй польскай школы і ніхто ані разумее, ані ўмее гаварыць па польску. Я не магла глядзець на тых людзей. Яны страшэнна зьнішчаныя і брудныя. Цэлы тыдзень ня мыюцца, ані голяцца. Гэта жывы вобраз калгасьніка.

Паветра там здаровае. Я ўсё ела і паправілася. Пагода была вельмі прыгожая, а гарачыні трудна было сьцярпець (да 35⁰).

Цяпер кароценька апішу, якое палажэньне веручых людзей на Беларусі.

У сталіцы Беларусі, Менску, ёсьць да 100 000 каталікоў, а няма ніаднаго ксяндза. У гэтай-жа рэспубліцы няма ані аднаго каталіцкага біскупа і духоўнае сэмінарыі, а ксяндзы, якіх надта мала, найбольш адзін на раён (у некаторых няма), яны ўжо выміраюць.

На Беларусі праводзіцца яўная дыскрымінацыя веручых (бесправнае палажэньне — прасьлед. — Рэд.).

Дзецям нельга хадзіць да касьцёла, напр. калі трое дзяцей прыйдзе да касьцёла, дык астаецца ён пад забаронай на тры месяцы, г. зн. што ксёндз ня мае права даваць сакрамантаў.

Ксяндзам, якія ёсьць — нельга езьдзіць да хворых іншых парахвіяў. Калі прыяжджае да хворага ў сваёй парахвіі, то прыймаць яго можа толькі найбліжэйшая сям'я, суседзям нельга.

Ксяндзам не пазволена ехаць да суседа-ксяндза з душпастырскай паслугай — нельга адпраўляць Імшы, служыць сакрамантамі, мовіць казаньняў. Іншым людзям, напр. інжынерам магчыма прыяжджаць у Беларусь з іншых рэспублікаў, затое ксяндзу ніколі.

У некаторых касьцёлах, дзе няма ксяндза, людзі самі запальваюць сьвечкі, кладуць літургічныя адзеньні на аўтар, загадваюць арганістаму іграць і ў душы уважаюць, што знаходзяцца на сапраўднай Імшы. Аж сьлёзы сыпаліся гледзячы на гэтае.

(Газэта Недзельна, № 43 (1003), Лёндан, 22. X. 1967, бач. 7)

# Над сьвежай магілай

*Яшчэ адну ахвяру*
*Съмерцъ з нашых вырвала радоў . . .*

10. X. 1967 году памёр у Мюнхэне пасьля доўгае і цяжкае хваробы наш сябра

магістар АЛЯКСАНДАР МАРГОВІЧ.

Нарадзіўся ён у гор. Глыбокім 5. VII. 1924. Бацька ягоны памёр хварэючы на рака і маючы толькі 32 гады, дык малады Алесь мусеў вельмі рана цяжка працаваць, каб дапамагчы матцы гадаваць трох малодшых сясьцёр. Вучыўся ў рэальнай гімназіі, пасьля працаваў настаўнікам.

Пасьля вайны Марговіч апынуўся на Захадзе. Прабываючы ў лягерах, здабывае матуру, а пасьля з групай г. зв. «дванаццаткі», якой быў сябрам, выяжджаюць на працу у Англію. Там працуе ў капальнях вугля, але нарэшце яму ўдаецца разам з сябрамі папасьці ў Лювэнскі унівэрсытэт у Бэльгіі. Па заканчэньні студыяў прыбывае ў Мюнхэн, дзе прыймае ўдзел у беларускай культурна-грамадзкай працы. У 1966 годзе захварэў, але нават і ў часе хваробы не пакідаў беларускае працы.

Гэтая страшная хвароба (рак кішок) зламала яго поўную энэргіі натуру. Мусеў перанесьці надта цяжкія апэрацыі. З гарачай любоўю да Бацькаўшчыны лучылася ў яго любоў да музыкі і прыроды.

У Мюнхэне пакінуў удаву, а на Бацькаўшчыне матку і трох сясьцёр. І вось сяньня стаім над



сьвежай магілай, скланяем галавы перад гэтым ціхім змагаром, які нямала дабра прычыніў для нашае роднае справы. На вялікім мюнхэнскім магільніку пад трымя бярозкамі знайшоў ён сабе апошні прытулак.

На паховіны прыбыло шмат беларусаў зь Ня-

меччыны і зь іншых краінаў. А нават з Рыму прыбыў Яго Даст. Біскуп Ч. Сіповіч. Абрад паховінаў выканаў сябра памёршага па ўнівэрсытэце а. Прат. Аўген Смаршчок.

Гучыць «Вечная Памяць!» і духавенства па чарзе акрапляе сьвятой вадою магілу. Апошняе слова сказаў а. А. Смаршчок у нямецкай і беларускай мове, далей Сп. Прэз. М. Абрамчык прыпомніў усе заслугі Памёршага дзеля беларускай справы. Паволі пачынаюць усе разыходзіцца і наш бедны Алесь астаецца адзін, пакрыты цэлай гарой вянкоў і кветак.

Сьпі, Дарагі Дружа, хай табе будзе лёгкай чужая зямелька!

Пасьля паховінаў Уладыка Чэслаў у таварыстве Прэз. Абрамчыка і сьвятароў А. Смаршчка і Ул. Салаўя наведаў магілы Памёршых Сыча і Карася, якія спачываюць на гэтым магільніку.

Вечная Памяць!

С. Г.

## З беларускае прэсы

БЕЛАРУС: № 125, Верасень 1967, Нью Ёрк і ВЕСТКІ КАНАДЫ, Торонто. Тыдзень Паняволеных Народаў у Нью Ёрку: Беларусы ішлі ў паходзе із сваім нац. сьцягам.

СЯЎБІТ: 1967, Лістапад-Сьнежань, № 60, Нью Ёрк.

БЕЛАРУСКІ ГОЛАС: № 152, Верасень, Торонто, Онтарыо, Канада.

«Ворагі Беларускасьці Ня Сьпяць». В. Островскі. Лёндан, 1967.

НАВІНЫ: №№ 16 (31 жнівеня), 17 (15 верасьня), 18 (30 верасьня), 19 (15 кастрычніка), 20 (31 кастрычніка) 1967, Нью Ёрк.

У № 16-ым прыведзены надта характэрныя і цікавыя заўвагі Я. Коласа:

«Любоў да свае мовы — гэта любоў да свайго народу».

«Хто-ж не навучыцца любіць свой народ, ад таго дарэмна чакаць павагі й да іншых народаў».

«Ён заўсёды будзе абменьваць любоў на грошы».

«Гаварэце праўду. Нясеце яе каля самага сэрца».

«Мінулага няма чаго баяцца, як прывідаў уначы».

«Мінулага баіцца той, хто ня ўпэўнены ў сваім сяньняшнім і заўтрашнім дні».

---

*Я. Савіцкі*

## У Лёндане — цікавая прыгода

У вялізным горадзе Лёндане, у публічным Hide Park Corner, ёсьць такая трыбуна, зь якой можа кожны прамаўляць да прыгодных слухачоў: выступаюць тут розныя аматары і свабодна гавораць на ўсялякія тэмы. Карыстаюць з гэтага камуністы і атэісты, каб праводзіць свае ідэі. З публікі ім людзі ставяць пытаньні, спрачаюцца або згаджаюцца з прамоўцамі.

І вось адзін гаманіў доўга аб існаваньні Бога і ўканцы сказаў: «Духавенства кажа, што ёсьць Бог і што Бог стварыў сьвет сваёй сілай. А людзі нічога насупраць волі Божай ня могуць даканаць . . .» Я — кажа ён — з гэтым не згаджаюся, бо цяпер навука так пайшла далёка, што можа сваімі атамнымі бомбамі разламаць нашую плянэту ў адзін момант. Значыць, людзі маюць сілу роўную ці нават большую ад Бога . . . Хто можа гэтаму запярэчыць?»

Тут адзін з публікі сказаў: «Я табе запярэчу! Толькі пусьці мяне на сваё месца . . .»

Тут яны памяняліся месцамі і новы прамоўца казаў: «Паслухайце, людзі, аб такім здарэньні: Быў тут гадоў таму 60 адзін слаўны мастак-маляр. Ён хацеў адтварыць у абразох стварэньне сьвету і — паводле Бібліі — намаляваў 6 вялікіх абразоў; а найбольш прыгожы быў малюнак раю і першых у ім людзей. Мастак працаваў каля 20-ці гадоў і нарэшце асьмеліўся даць усе абразы на выстаўку. Публіка аблягала касу, каб убачыць геніяльныя малюнкі, якія ацэньвалі на мільёны. Але вось, калі людзі чакалі адкрыцьця, туды закраўся злачынца і абліў абразы бэнзынай дый падпаліў: умомант усё згінула! Людзі маглі разарваць на кускі нягодніка, але паліцыя пасьпела яго абараніць: гэта быў юнак, які з гультайства і п'янства не здаў апошняга эгзамену і гэтак хацеў памсьціцца над грамадзтвам.

«Дык цяпер мне скажыце, ці можна раўнаваць таго геніяльнага і працавітага мастака, які ўлажыў у сваю працу ўсю сваю навуку і час, дый сваю маладосьць і здароўе; ці можаце — кажу — раўнаваць з гэтым злачынцам, які ў адну хвіліну зьнішчыў вялікі твор духа і генія?! — Аднак той прамоўца — перада мной — раўнуе

цяперашніх вучоных з Самым Богам-Тварцом сьвету!!! — Калі Бог у працягу мільярдаў гадоў тварыў і ўпрыгожваў нашую цудоўную плянэту-зямлю, дык вучоныя тэхнікі-варвары хочуць ці плянуюць зьнішчыць яе атамным аружжам.

«І гэты новы варвар-прамоўца хваліць такіх варвараў-тэхнікаў! А вы спакойна слухаеце і гатовы біць яму брава... Сапраўды, цяперашні сьвет вар'яцее, дык можа і трэба яму загінуць?»

Цяпер тут было ўжо шмат народу і слухалі з захапленьнем, бо прамоўца гаварыў энэргічна; з цэлай душы быў праканаваны сам і здолеў усіх уцягнуць у ток сваіх думак — аж публіка ня сьмела ні дыхнуць, ні адарвацца ад выражэньня вачэй і твару і голасу такога аратара! А ён парушыў яшчэ іншую тэму:

«І яшчэ пакажу вам друкое здарэньне: Масква сьвяткуе Юбілей — 50 Гадоў Рэвалюцыі! Дык вось савецкая камуна і дыктатура атрымала ад Вольнага Сьвету — ад вольных дзяржаваў — тэлеграмы і *віншаваньні.* Пытаюся, за што віншуюць?

«Ці за тое, што рэвалюцыя зьнішчыла 50 мільёнаў нявінных людзей — без судоў — у турмах і лягерах, або голадам?..

«Ці за тое, што скасавалі ўсялякую свабоду, вольныя выбары і ўсе нязгодныя зь імі партыі?..

«Ці за тое, што 30 гадоў найбольшы тыран сьвету, Сталін, няволіў свабодныя народы і нішчыў іхнюю інтэлігенцыю?..

«Ці можа за тое, што тыраны, якія працавалі з Сталінам — ягоныя выхаванкі, вучні і памацнікі — цяпер кіруюць партыяй і ўрадам Саюзу, калі павінны адказваць за зьверствы свайго шэфа, у якіх мачалі свае рукі?..

«Дык у гэтым сьвяткаваньні рэвалюцыі, — *слухачы, падумайце!* — і скажыце мне, з чаго больш дзівіцца, ці з цынізму камуны, якая цешыцца зь людзкое крыўды? Ці з наіўнасьці і дурноты Вольнага Сьвету, які *віншуе* трыумф тыраніі і зьверства?»

І прамоўца зыйшоў з трыбуны: ён быў няведамы нікому і зьмяшаўся з публікай. Але яшчэ ніколі ня здаралася народу пачуць такія шчырыя і пранікліўныя словы пагрозьлівай праўды. Нешта падобнае здарылася калісьці ў горадзе Ніневе, калі прарок Іона галасіў: «Яшчэ тры дні, а Нініва будзе разрушана!»

---

# ВЕРШЫ

**Вінцэсь Каратынскі**
**(З вершаў XIX стагодзьдзя)**

## З «ГУТАРКІ СТАРОГА ДЗЕДА»

*Эй, скажэце, добры людзі,*
*Што ужо на сьвеце будзе,*
*Ці то так судзіў Бог з намі*
*Гінуць век пад маскалямі?*

*Магазыны сталі браці:*
*Як пачалі ваяваці,*
*У абоз вязьці ўсё збожа,*
*А народ — хоць гінь, нябожа!*

*І аддаўшы ўсё із хаты,*
*Сталі браці у салдаты,*
*Кідай жонку, дзеткі ў дому,*
*Едзь ў калодцы да прыёму.*

*Там лоб голяць і муштруюць,*
*Б'юць і ломяць і катуюць,*
*Глодзяць, глумяць, як скаціну,*
*На зарэз бяз дай прычыну.*

*А як войска непатрэба,*
*Дык салдат шукай сам хлеба!*
*Шле дамоў, хаця не знае,*
*Ці каторы дом свой мае.*

*Толькі кажуць: не хавайся,*
*Зараз на прыказ стаўляйся,*
*Нясі боты, стрычцца, брыцца,*
*Хоць ня маеш чым пражыцца.*

*Людзі лепш даўней тут жылі,*
*І другіх дабра вучылі,*
*А чужы, чаго ня знае,*
*То й не ліха навучае.*

*Дзе жандар званкамі зьвягне,*
*То усіх ў вастрогі цягне,*
*Ці убогі, ці багаты —*
*Ад работы цягнуць з хаты.*

*Ўсе чыноўнікі збыткуюць,*
*Абдзіраюць і катуюць,*
*Глумяць, крыўдзяць, разьбіваюць,*
*Жаліцца не пазваляюць.*

*Але-ж, братке, ня тужэце,*
*Лепш у Бога папрасеце*
*Міласердзя, каб ён скора*
*Пераменіў наша гора!*

*Бо пара ўжо наступае,*
*Што свабода заглядае,*
*А як гэта тое будзе —*
*За вум бярыцеся, людзі.*

*Памятайце тую пору,*
*Як прыдзе да прыгавору,*
*Каб часамі ня змыліцца,*
*На век векаў ня згубіцца.*

*А гарэлку кіньце піці,*
*Каб розуму ня здурыці:*
*Як трэ слова нам сказаці, —*
*Долю добру выбіраці!*

*Бо хоць яны круцяць, муцяць,*
*Народ просты баламуцяць:*
*Што маскаль мае даць волю,*
*Палягчыці нашў долю.*

*Ой ня верце таму, людзі,*
*Бо ніц з гэтага ня будзе —*
*Каб ён так хацеў зрабіці,*
*То даўно-б мусіла быці...*

1861

## БАЙКІ

*Вінцук Адважны*

### КОТ І РЫБАК

*Кот-Мурка быў на рыбку ласы*
*І больш яшчэ як на каўбасы —*
*Аж сьнілася і ўдзень і ўночы,*
*Як толькі плюшчыў вочы.*

*Дый ня любіў вады, —*
*Дык з той бяды*
*Бяжыць да рыбака і просіць:*
*— Ты ловіш рыбкі досыць, —*
*Я знаю — добры ты такі, —*
*Вазьмі мяне ў памацнікі!*

*— Мая супраца не зашкодзе,*
*Падзелім працу ў мілай згодзе, —*
*Дай толькі ў лодку сесьці:*
*Ты сам лаві, я буду есьці.*

*— Ой, не — ня так! —*
*Казаў рыбак:*
*— Я буду сеткі закідаць,*
*Ты — рыбку заганяць.*

*Паехалі. Рыбак дае загад:*
*— Ну, коцік-брат,*
*Скачы ў ваду,*
*Я з сеткаю пайду:*
*Загорнем рыбы, як панесьці,*
*Тады ўжо будзем есьці! —*

*Кот фыркае ад страху,*
*Аднак з размаху,*
*Як скочыў, ляпае хвастом,*
*Рыбак таўчэ шастом. —*
*А рыба ў сетку прэцца, —*
*Рыбак ажно сьмяецца!..*

*Не зьмеркаваў рыбак, як кот*
*Папаў, як нітка ў калаўрот,*
*У вір: як закруціўся*
*І ўміг на дно спусьціўся*
*І рыбаку з вачэй зыйшоў, —*
*На дне лавіў ракоў...*

*

*Ня лезь, брат, здуру у ваду,*
*Бо ўлезеш у бяду!*

*

### ДВА САБАКІ

*Дзівосныя бываюць пляны:*
*Зьвяры, часамі й недабраны,*
*Жывуць з сабою без баязьні*
*І ў згодзе*
*І ў прыязьні. —*
*Ці так бывае у народзе?*

*Па вуліцы два бегалі сабакі:*
*Хто бачыў іх, дзівіўся усякі:*

*Адзін — грубы як слонь —*
*Вялізны конь!*

*Ад галавы да ног кудлаты*
*І хвост лахматы.*
*Дый голас меў басісты,*
*Як добры арганісты —*
*Грымеў на ўсю акругу!*

*Малому спадабаўся другу,*
*Бо той — малюсенькі як коцік,*
*А вочкі, вушкі, роцік*
*І хвосьцік як у мышкі —*
*Прыгожы як малюнак з кніжкі. —*
*Бяры яго у жменю,*
*Або садзі ў кяшэню!*

*Восьть той гігант ля вуліцы ляжыць,*
*А той малыш наўкол бяжыць*
*І скача праз яго і нібыта злуецца —*
*Брахне, прыляжа; зноў сарвецца,*
*За хвост, за вуха рвець . . .*

*Вялікі тольькі заравець,*
*Як быццам-то сьмяецца. —*
*Малы аж сьмее ў ляпу лезьці —*
*Той мог-бы зьесьці! . .*

*Наўкол народ*
*Убокі аж бярэцца, —*
*Стаіць, разявіць рот —*
*Аж войкае — сьмяецца!*

*А між людзьмі ці так бывае?*
*(Гісторыя старая!). —*
*Скажу вам прыклад зара:*
*Муж з жонкай — была такая пара —*
*Любіліся як галубкі . . .*
*Гады так тры. — Пасьля (няхай іх звод!)*
*Пагрызьліся горш як ваўкі —*
*Пайшлі ў развод!!!*



*Труднае пытаньне.*

ПАВАЖНЫЯ ЖАРТЫ

ЮБІЛЕЙНАЯ ЛЕКЦЫЯ

Лектар: Цэлага паўвеку мы даганялі Амэрыку...
Голас з народу: А колькі яшчэ дарогі асталося?
II-і голас: А гэтулькі, колькі і было!
III-ці голас: Дык калі-ж мы нарэшце дагонім?
IV-ы голас: Запытаешся яшчэ раз за 50 гадоў!

З МАСКВЫ . . .

Вярнуўся з Масквы старшыня калгасу «Чырвоны Серп», Евстігней Небыліцын, а дух зь яго ішоў, як з бровару! Ён зара адчыніў зборку калгасьнікаў.

Усе пытаюцца ў яго: — Ну, як там сьвяткавалі?

Старшыня: — О, слаўна! Хто колькі хацеў, крычалі, сьпявалі і пілі. А ў апошні дзень закінулі аднаго адважнага на месяц і ён, той «Месячнік» гаманіў па радыё — проста зь месяца!

Усе: — А што ён казаў? Як там? . .

Старшыня: — Ах-ах, як добра! Яшчэ свабадней, як у Саюзе: ідзі, куды хочаш; рабі што хочаш і ніхто цябе не кантралюе.

Усе: — Ня можа быць!?

Старшыня: — Каб я жыў, як гэта праўда! Нават казаў той «Месячнік», што і хавацца ад нікога ня трэба.

Усе: — Можа і праўда . . .

Старшыня: — І нарэшце крычыць ён зь месяца: «Падавайце — кажа — сюды Хрушчова, бо тут скрозь ц а л і н а ! Будзем сеяць кукурузу і ў тры мігі перагонім Амэрыку!!!»

Усе: — Ха-ха-ха! Хоць раз ты праўду сказаў...

**НАВІНА!** **НАВІНА!**

# Зборнік апавяданьняў

### Напісаў Анатоль Жменя

Паведамляем, што вось толькі выйшла ў Парыжы новая кніжка, якую абавязкава трэба пабачыць, падзівіцца і прачытаць!

Яна і зручная і прыгожая, а ўжо-ж у сваім зьмесьце — гэта нешта нязвычайнае, як тая цудоўная кветка, што вырасла неспадзявана на пустым полі, дзе нават і трава не расьце.

Бо толькі падумайце, беларусы, — вы чытаеце ў розных мовах, часта можа мала разумеючы, а тут вось кніжка нашая, — дый яшчэ якая!

«Зборнік апавяданьняў» . . .

Мала-ж такіх «апавяданьняў», ці казак, ці баяк у нас здаралася, дык што-ж тут новае?

Прызнаюся, што я сам чытаў і быў моцна праняты і магу паручыцца — такой кніжкі ў нас бадай яшчэ ня бывала. Тут не якіясьці казкі, але — жывая праўда. Тут апісаныя гісторыі на лоне нашай прыроды: проста бачыш вачамі, чуеш вухам і нават адчуваеш запах нашых лясоў і палёў — аж ямчэй б'ецца сэрца і нярэдка напоўніцца вока сьлязою, чытаючы гэтыя расказы!

І пераплываюць падзеі нашага народу перад чытачом, як тыя жвавыя ручаі, што ўпадаюць у раку Вяльлю, — то цурчаць па каменьчыках, а то плывуць спакойна па раўнінах, адбіваючы праменьні сонца днём, а месяц і зоркі ўначы. І ўрэшце зьбіраюцца ў вялізныя рэкі, як прыгажуня Дзьвіна ці паважны Нёман або магутны Дняпро.

Так уласна ўсялякія праявы жыцьця сабраў Анатоль Жменя ў кніжцы якую мы кладзём прад вачамі чытачоў: кніжка, як энцыкляпэдыя году — вясны, лета, восені і зімы, а таксама дня і ночы, дый пражытых часаў супакою, вайны і рэвалюцыі, — адным словам, ілюструе нашыя будні і сьвяткі . . .

А найважнейшае тое, што ў гэтай кніжцы чалавек можа ўбачыць сябе самога — свае і сваей сям'і «кветкі і церні», — радасьці і нядолю, вясельле і сум, сьмех і сьлёзы . . .

Сапраўды, гэтая кніжка ня будзе чытачу бескарыснай, абы ён толькі ўмеў задумацца і ня перабягаў па апавяданьнях, як той амэрыканскі багацей, які ў колькі дзён аблятае дзесяткі касьцёлаў і музэяў у Рыме, а пасьле аказваецца пустым турыстам і не мае аб чым расказваць . . .

З кніжкі «КВЕТКІ І ЦЕРНІ ЖЫЦЬЦЯ» мы дагадваемся, што аўтар А. Жменя знае грунтоўна сялянскае жыцьцё — відаць, быў сынам добрага гаспадара дый пайшоўшы ў навукі, не адарваўся ад зямлі — ад касы, цапа, сярпа і плуга, дый ня стыдаўся «простага» чалавека і ягонае працы.

Прытым аўтар паказвае абгрунтаванае пазнаньне ў галіне прырадазнаўства, мэдыцыны, рамёслаў і . . . веды царкоўнае. Зь вялікім зьдзіўленьнем бачым, як умела гарманізуе справы матар'яльныя з духовымі.

Словам, кніжка зьяўляецца ідэальна чыстым люстрам чалавека і хацелася-б сказаць, Эвангельлем — ілюстрацыяй беларускага жыцьця. Дык аж пачуваем жаль да аўтара, што так нечакана абрывае свае расказы, калі павінен быў-бы разьвіваць іх шырэй, і глыбей паказваць і разьвязваць драмы ў душах адзінак і грамадаў беларускіх!

А каштуе толькі $ 3,00 або 18 шылінгаў!

*Я. Савіцкі*

## ЗЬМЕСТ




Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.